ISSN 2351-6658
ISSN (ONLINE) 2351-6666

# ПАДТРЫМКА ІДЭІ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ РЭСПУБЛІКІ ЎДЗЕЛЬНІКАМІ МАГІЛЁЎСКАГА СХОДУ 31 САКАВІКА 1918 ГОДА Ў СВЯТЛЕ ДАКУМЕНТАЎ ЛІТОЎСКАГА ЦЭНТРАЛЬНАГА ДЗЯРЖАЎНАГА АРХІВА

АЛЯКСАНДР АГЕЕЎ

***Анатацыя:*** Артыкул прысвечаны праблематыцы палітычнага самавызначэння жыхароў Магілёва напрыканцы Першай сусветнай вайны. Даказваецца, што Магілёўскі беларускі камітэт арганізаваў 31 сакавіка 1918 года ў Магілёве прадстаўнічы сход гараджан, які падтрымаў ідэю незалежнасці БНР. У ім бралі ўдзел прадстаўнікі дзяржаўных органаў, палітычных партый, прафсаюзаў, нацыянальных арганізацый. Магілёўцы выступалі за правы беларусаў самім арганізоўваць сваё жыццё ў самых неспрыяльных умовах акупацыі і рэвалюцыйных катаклізмаў.

***Ключавыя словы:*** Магілёў, БНР, Міхаіл Кахановіч, Магілёўскі беларускі камітэт, нацыянальнае самавызначэнне.

# SUPPORT FOR THE IDEA OF THE BELARUSIAN PEOPLE'S REPUBLIC INDEPENDENCE BY THE PARTICIPANTS OF THE MAHILIOŬ MEETING ON MARCH 31, 1918 IN THE LIGHT OF THE LITHUANIAN CENTRAL STATE ARCHIVE DOCUMENTS

***Abstract:*** The article focuses on the political self-determination of Mahilioŭ residents at the end of the First World War. It is proved that the Mahilioŭ Belarusian Committee organised a representative assembly of citizens who supported the independence of BNR in Mahilioŭ on March 31, 1918. It was attended by representatives of state bodies, political parties, trade unions and national organisations. Mahilioŭ residents advocated the right of Belarusians for self-organisation under the most adverse conditions of occupation and revolutionary upheavals.

***Keywords:*** Mahilioŭ, BNR, Michail Kachanovič, Mahilioŭ Belarusian Committee, National Self-Determination.

Першая сусветная вайна рэзка паскорыла геапалітычныя і нацыябудаўнічыя працэсы ў Еўропе, а рэвалюцыйны 1917 год яшчэ больш актуалізаваў нацыянальнае пытанне на абшарах Расійскай Імперыі. Жыхары Магілёва актыўна ўдзельнічалі ў рэвалюцыйных падзеях, у тым ліку ў дзейнасці Магілёўскага беларускага камітэта (МБК). Апошні быў створаны вясной 1917 года ў Магілёве і дзейнічаў да канца 1918 года. Палітычныя погляды яго членаў эвалюцыянавалі ад мар пра нацыянальную аўтаномію да падтрымкі незалежнасці БНР.

Архіўныя справы аб дзейнасці першых магілёўскіх беларускіх патрыётаў доўгі час захоўваліся ў Цэнтральным дзяржаўным архіве ЛітССР, а затым былі перададзены ў БССР. Нават пасля перадачы ў Вільні застаўся вялізны пласт архіўных матэрыялаў, звязаных з дзейнасцю МБК. Нядаўна ў адкрытыя фонды Літоўскага цэнтральнага дзяржаўнага архіва паступіла справа з мандатамі ўдзельнікаў знакавага сходу 31 сакавіка 1918 года ў Магілёве, якая дазволіла адказаць на многія важныя пытанні працэсу палітычнага самавызначэння магілёўцаў у пачатку ХХ стагоддзя (LVCA, спр. 65).

Гістарыяграфічная праблема заключацца ў тым, што адпаведна ўспамінам кіраўніка камітэта Міхаіла Сілуянавіча Кахановіча падзеі лёсавызначальнага сакавіка 1918 года ў Магілёве разгортваліся наступным чынам.

Пасля з’яўлення звестак з Мінска, што Беларуская рада (абраная Усебеларускім з’ездам у снежні 1917 года) абвясціла ў Мінску аб утварэнні Беларускай Народнай Рэспублікі і незалежнасці Беларусі, актывісты Беларускага нацыянальнага камітэта вырашылі склікаць прадстаўнічы сход усіх магілёўскіх арганізацый. На яго 12 ліпеня 1918 года ў будынак акружнога суда прыйшло каля 400 чалавек: прадстаўнікі губернскага і павятовага земстваў, мясцовай гарадской думы, нацыянальных, прафесійных, культурна-асветніцкіх і грамадска-палітычных арганізацый. Пасля дэбатаў пытанне аб незалежнасці Беларусі прайшло абсалютнай большасцю галасоў (Кахановіч, 1997: 3–5). Гэта быў трыумф ідэі беларускай дзяржаўнасці. Магілёў аказаўся адзіным з буйных гарадоў Беларусі, які на гэткім прадстаўнічым мерапрыемстве падтрымаў ідэю суверэнітэту Беларусі, выяўленую ў Статутнай грамаце ад 25 сакавіка 1918 года.

Але іншыя крыніцы не пацвярджалі месца і даты правядзення сходу. Так, адсутнічалі звесткі аб сходзе ў пачатку ліпеня ў працах вядомага савецкага магілёўскага краязнаўцы Філіповіча, які прысвяціў асобную кнігу хронікі падзей 1917–1918 гадоў у Магілёве. У яго кнізе, праўда, ёсць за датай 2 мая 1918 года паведамленне аб сходзе, які арганізаваў МБК *“у дні польскай акупацыі горада”* (як мінімум на два месяцы раней за дату Кахановіча – аўт.) з удзелам грамадскасці. Але сцвярджаецца, што

гарадская дума і асноўныя палітычныя партыі адмовіліся пасылаць сваіх прадстаўнікоў у Цэнтральную раду, якая цесна супрацоўнічала з нямецкімі ўладамі (Филипович, 1995: 58).

Незразумелымі былі таксама матывы прыходу на сход і галасавання за незалежнасць БНР задужа разнастайных па сваіх поглядах і накіраванасці дзейнасці нацыянальных, прафесійных, культурна-асветніцкіх і грамадска-палітычных арганізацый і гэтак далей. Нарэшце, не зразумела было, як тэхнічна можна было арганізаваць правядзенне такога шматлюднага сходу ў памяшканні акруговага суда. Усе гэтыя і некаторыя іншыя пытанні нараджалі ў скептыкаў недавер да праўдзівасці і інфармацыйнай дакладнасці ўспамінаў Кахановіча.

Праца ў літоўскіх архівах дазволіла нам удакладніць, што сход адбыўся 31 сакавіка 1918 года. Праходзіў ён у будынку суда, які з-за знаходжання ў Магілёве Стаўкі пераехаў у будынак Мар'інскай гімназіі. Менавіта ў ім была вялікая гімназічная зала, што тэхнічна дазваляла правесці такі прадстаўнічы сход. Справа з мандатамі ўдзельнікаў сходу канчаткова вырашае праблему даты сходу. Праходзіў ён не 12 ліпеня, а 31 сакавіка 1918 года. У дзесяці мандатах указваецца як дата сходу менавіта 31 сакавіка. У іншых маюцца выходныя даты дакументаў: 29, 30, 31 сакавіка.

У справе месціцца толькі 26 мандатаў і пасведчанняў для 34 удзельнікаў сходу ад 31 сакавіка. Нягледзячы на тое, што яны захаваліся часткова, канчаткова праяснілася пытанне шырокай яго рэпрэзентатыўнасці. Маюцца мандаты дэлегатаў ад Упраўлення земляробства і дзяржаўных маёмасцяў, Магілёўскага губернскага камісарыяту. Былі дэлегаты ад Бунда, мясцовай Рады польскай, Магілёўскага камітэта Яўрэйскай сацыялістычнай рабочай партыі. Прафсаюзы як мінімум былі прадстаўлены дзевяццю саюзамі. Прысутнічалі і літоўскія прадстаўнікі: ад ліквідацыйнай камісіі бежанцаў літоўцаў быў ксёндз Краўяліс, а ад Партыі сацыялістаў-народнікаў Літвы М. І. Кірліс. З накіраваных на сход дастаткова было прадстаўнічых асоб высокага статусу ў сваіх арганізацыях. Так, агульны сход служачых Упраўлення земляробства і дзяржаўных маёмасцяў накіраваў на сход начальніка ўпраўлення Івана Цэзаравіча Глебавіча і ягонага памочніка справавода Макарава. Агульнагубернскі саюз служачых ва ўрадавых установах прадстаўляў яго старшыня К. О. Цесман. На жаль, у многіх мандатах не ўказваецца статус дэлегатаў у сваіх арганізацыях (LVCA, спр. 65).

Ініцыятарам і арганізатарам сходу выступіла Беларуская рада. Важна падкрэсліць, што дэлегаты не прадстаўлялі сябе асабіста, а былі абраны і накіраваны сваімі арганізацыямі і ўстановамі. А саюз служачых магілёўскіх аддзяленняў сялянскага і дваранскага банкаў накіраваў свайго дэлегата К. Ц. Анікіевіча адразу ў Беларускую раду, каб абараняць там *"інтарэсы Беларусі"* (LVCA, спр. 65: 10).

Мандаты дакладна акрэслілі і мэту сходу – *“рашэнне пытання аб усталяванні краёвай улады”.* Адсюль і высокая яўка, і матывы ўдзельнікаў. Ва ўмовах, калі побач ў Савецкай Расіі палыхала грамадзянская вайна, МБК ставіў пытанне аб уладзе. У незалежнасці ад нацыянальнага самавызначэння, палітычных поглядаў, рэлігійных перакананняў многіх магілёўцаў, верагодна, задавальняў мір і ў іх было жаданне дыстанцыявацца ад нестабільнай суседняй дзяржавы, што вызначыла падтрымку беларускага пытання ў сакавіку 1918 года.

Дадзены вывад пацвярджаецца і аналізам тэкстаў публікацый у магілёўскіх газетах, які паказвае, што беларускае пытанне не сыходзіла з іх на працягу ўсяго 1918 года. Яно было амаль такім самым папулярным, як і пытанне забеспячэння хлебам горада. Прычым летам і восенню 1918 беларускае пытанне знаходзіла ўсё больш прыхільнікаў, бо іншага выйсця з магчымага прыходу савецкай улады многім не бачылася.

Такім чынам, мы можам сцвярджаць, што 31 сакавіка 1918 года ў Магілёве сапраўды адбыўся прадстаўнічы сход гараджан, які падтрымаў ідэю незалежнасці БНР. Дзякуючы збегу неспрыяльных для МБК ваенна-палітычных абставін яго кіраўнік, а разам з ім і архіў камітэта апынуўся на тэрыторыі “буржуазнай” Літвы, не быў знішчаны і захаваўся да нашых дзён. Дакументы архіваў Літвы і Беларусі дазваляюць комплексна рэканструяваць стварэнне і дзейнасць МБК і раскрываюць вытокі падтрымкі беларускай дзяржаўнасці ў вірлівых умовах грамадска-палітычнага жыцця Магілёва напрыканцы Першай сусветнай вайны. Дзякуючы ім мы ведаем, што ў самых неспрыяльных умовах акупацыі і рэвалюцыйных катаклізмаў кіраўніцтва камітэта адстойвала інтарэсы беларусаў і краю ў гарадскіх, губернскіх, агульнарасійскіх установах, дасылала адозвы суб’ектам міжнароднага права. На жаль, лёс беларускага пытання залежаў тады не толькі ад саміх жыхароў Беларусі, але ў значна большай ступені ад становішча на франтах вайны і знешнепалітычных адносін існаваўшых і значна больш магутных дзяржаў, перш-наперш стасункаў Германскай Імперыі і Савецкай Расіі.

### ***Бібліяграфія***

1. Кахановіч, Міхаіл (1997). “Магілёўцы і незалежнасць Беларусі (мае ўспаміны)”, *Спадчына,* № 6: 3–5.

2. *Мандаты і пасведчанні дэлегатаў абраных для ўдзелу ў пасяджэнні Магілёўскай беларускай рады,* 29.03.1918–31.03.1918. Літоўскі цэнтральны дзяржаўны архіў (LVCA), Ф. 582, воп. 2, спр. 65, арк. 1–26.

3. Филипович, И. И. (1995). *Могилев: Хроника событий 1917 – 1918 (по архивным и печатным материалам).* Могилев.